# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 30 (1222) ГОД XXIV БЕЛАСТОК 29 ЛІПЕНЯ 1979 г. ЦАНА 1 зл.

КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

## ВАКУЛОВІЧЫ

Гэта адна з таго дзесятка вёсачак, што абселі абодва берагі быстрай Машчонкі, невялічкага правага прытоку Буга. Месца тут, здавалася б, даволі рухлівае, бо ў якіх двух кіламетрах на поўнач знаходзіцца палустанак Сычы на чыгуначнай лініі Чаромха — Седльцы, недзе ў дванаццаці кіламетрах ладнай дарогі маеце старажытны Мельнік, крыху бліжэй на захадзе — Сямяцічы. А тут...

А тут такі зацішак і векавая даўніна адклікаецца рэхам у смалістым сасновым „Бурку“, выныгае звугленымі ад старасці рэшткамі магутных слупоў, што некалі трымалі на сабе грэблю, мост і ўсё мудрагелістае абсталяванне размашыстага млыновага „колеса“. Успльваюць у памяці словы аднаго з першых запісаў у Іпацьеўскім летапісе пра тутэйшыя землі. „Воеваша Литва около Мелнице... и великъ пленъ прiяша...“ пісаў летапісец пад 1247 годам. Значыць, ужо і ў тыя часы, людна тут было, бо было што браць у „великъ пленъ“. Няма сумнення ў тым, што гэтая надта ж здатная для сельскай гаспадаркі і рамяства мясціна была густавата заселена. З дакументаў XVI стагоддзя відаць, што тут „сядзела“ тады цэлая чарада мельнікаў, бо нават і каралеўскі пісар называе іх у сваім „попісе“ на падатак „Мельнікамі“. Ад іх імёнаў Аксюты, Паўла ці мянушак Сыч, Кудэля і павялася большасць цяперашніх назваў гэтых вёсачак: Аксюцічы, Паўлавічы, Сычы, Кудэлічы. Вакуловічам, вядома, даў пачатак мельнік Вакула.

Калісьці мельнік быў майстрам на ўсе рукі: і дойлідам, і меліяратарам, і механікам, і кавалём, і чым яшчэ толькі. Яшчэ ва „Уставе на валокі“ з 1557 г. гаворыцца, што мельнік ва ўладаннях гаспадарскіх (г. зн. вялікага князя літоўскага) атрымоўвае 3-ю мерку з мліва, калі 2 паступаюць на ўласнасць князеўскую. „І за гэтую 3-ю мерку павінен мельнік быць майстрам у доглядзе і абсталяванні млына і спустаў...“ А за карыстанне валокай зямлі, што пры млыне, „мае ў замку або двары, якому ён паслушны, адзін дзень на тыдзень цясельскай работай служыць“. Потым гэтая служба павялічвалася да двух і болей дзён. З тэтага вынікае, што колішняя магутная крэпасць, якая ўзвышалася на мельніцкай Замкавай гары, была часткова творам рук „сядзеўшых“

Працяг на стар. 4



Новы Беласток. Фота Я. Целушэцкага.

## РОДНЫ МОЙ БЕЛАСТОК

**Беласток, родны мой, Беласток,**
**Зноў зраднілася я з тваім гварам.**
**Непадкупны у сэрцы куток**
**Прыпякаюць пачуцці варам.**

**Знаю шмат я другіх гарадоў,**
**Знакамітых цвярдынь гістарычных.**
**Але так саграваеш кроў**
**Толькі ты, мой горад крынічны.**

**Ты прамыў маю душу да дна,**
**Адзываешся ў кожнай крывінцы.**
**Для мяне ты, бы тая вясна,**
**Што жыццё дае кожнай былінцы.**

**І не трэба мне лепшых пяшчот.**
**Толькі б неба тваё абнімала!**

**Ты расцеш ўшыр: на захад, усход,**
**Аж зямля шэпча, нібы жывая.**

**Добры лёс ў падарунку ці злы,**
**Нельга вырваць з жыцця ўсё былое.**
**Туга скручаны думак вузлы,**
**У грудзях б'ецца сэрца нямое.**

**Не нямое яно, ты пачуй!**
**Ў ім табою лагчынка прарыта.**
**Адгалоскі гарматаў і куль**
**Прасявае душа, нібы сіта.**

**Адкуль ветры не дулі б, ты знай,**
**Што цябе, Беласток, я кахаю.**
**У які б не зблудзіла я край,**
**Да цябе сцежку я апытаю.**

**Ірына Бярозка**

### ДОТ 18 ГЕРОЯЎ

Не забыў я пра іх і не магу забыць. Толькі як разгадаць тайну, якую на вечны замок закрыла непадкупная смерць? Дзе шукаць ключа ад гэтай тайны?

Я ўжо ведаў, што бетонныя бункеры, якія і па сённяшні дзень тырчаць над Бугам ад Драгічына аж па Мельнік, уваходзілі ў разгалінаваную сетку абароны **62 Брэсцкага ўмацаванага раёна.** Гэта раз'ясніў мне перш за ўсё **Ласковіч Васіль Пятровіч** — жыхар Брэста, ветэран даваеннага камуністычнага падполля, удзельнік Айчыннай вайны і партызанскага руху на Беларусі, аўтар кніжак пра дзеячоў КПЗБ, пастаянны навуковы супрацоўнік Мемарыяльнага комплекса „Брэсцкая крэпасць-герой“, дзе якраз і займаецца ён вывучэннем баявых падзей у раёне 62 Брэсцкага ўмацаванага раёна, інакш — **БУРа.** На аснове сабраных у Брэсце матэрыялаў быў састаўлены зборнік успамінаў на рускай мове „Буг в огне“, другое выданне якога паявілася ў выдавецтве „Беларусь“ у 1977 годзе. Гэтыя матэрыялы і сабраныя дакументы дазволілі таксама наладзіць спецыяльны куточак у Музеі абароны Брэсцкай крэпасці.

Стаім мы вось з Васілём Пятровічам ля гэтых стэндаў, якія паказваюць ход баёў на тадышняй дзяржаўнай граніцы Савецкага Саюза, і таварыш Ласковіч паясняе:

## ХТО ЯНЫ?

— Камандзірам 62 БУРа быў тады генерал-маёр **Пузыроў Міхаіл Іванавіч,** а яго намеснікам па палітычных справах **Чыпыжанка Іван Грыгор'евіч.** Абодва яны ўдзельнікі грамадзянскай вайны, старыя камуністы-бальшавікі і абодвух, на жаль, няма сярод жывых. Пузыроў загінуў у раёне Сталінграда, а Чыпыжанка не змог вырвацца з акружэння, пайшоў у партызаны і загінуў тут жа, у раёне Брэста.

У састаў 62 БУРа ўваходзілі тры асобыя кулямётныя батальёны: 18 батальён пад камандаваннем капітана **Берукова Мікалая Паўлавіча,** 17 батальён, які якраз займаў паласу ў раёне Сямяціч, знаходзіўся пад камандаваннем капітана **Паставалава Аляксея Ільіча** і 16 кулямётны батальён пад камандаваннем капітана **Назарава Анатолія Васільевіча**, размяшчаўся крыху на поўнач ад Сямяціч. Усе тры гэтыя камандзіры загінулі на сваіх баявых пастах.

Адначасова з воінскімі часцямі знаходзіліся над Бугам вайсковыя будаўнікі, якія вялі пабудову дотаў і іншых абаронных збудаванняў. У раёне Сямяціч, гаворыць Васіль Пятровіч, размяшчалася якраз 74 будаўнічае кіраўніцтва...

Так, гэта важная інфармацыя для гісторыі надбужных бункераў, але яна, на жаль, не раскрывае тайны „18 герояў“. Хто яны?

— Расказаць вам пра людзей 17-га асобага кулямётнага батальёна? — паўтарае маё пытанне Васіль Ласковіч. — Калі ласка. Мы, для прыкладу, ведаем прозвішча **Бяляева** Івана Пятровіча, які пасля баёў над Бугам загінуў без вестак. Сям'я яго жыве ў Палтаўскай вобласці. Наладзілі мы таксама сувязь з **Ганчаровым** Парфірыем Грыгор'евічам, які зараз жыве ў Гомелі. Некалькі дзён трымаў ён абарону разам з іншымі байцамі ў адным з дотаў недзе ў раёне Сямяціч. Пасля запасным праходам выбраўся ў лес і праз Белавежскую пушчу прабіўся да сваіх. **Елісеенка** Нікалай Васільевіч — таксама ваяваў у раёне Сямяціч, а затым загінуў няведама дзе. Затое яго жонка жыве на Беларусі, у Віцебскай вобласці. **Змейкін** Іван Іванавіч — афіцэр 16 асобага кулямётнага батальёна. Ён нам напісаў, што 22 чэрвеня 1941 года прыняў бой пад камандаваннем батальённага камандзіра капітана А. В. Назарава, які там жа загінуў ад узрыву снарада. Другую роту, якой камандаваў лейтэнант Змейкін, у нядзелю 22 чэрвеня немцы акружылі. Абаронцы аднак не здаваліся аж да 26 чэрвеня.

**Зайцаў** Сяргей Нікалаевіч успамінае: „Першы бой прыняў я ў доце ля вёскі Сюхі. Вялі баі да 29 чэрвеня. Пасля папаў у палон. Знаходзіўся ў канцлагеры Заксенгаўзен“.

**Крук** Андрэй Сцяпанавіч таксама перажыў вайну і напісаў, што ён служыў у другой роце 17 асобага кулямётнага

Працяг на стар. 4

### ПОШУКІ І ЗДЗЯЙСНЕННІ

## І КВЕТАЧКА, І ЛІСЦІК, І ТРАВІНКА



— Пытаеце, як гэта пачалося? Вельмі няўдала. Пагнаў я раз кароў пасвіць, бо чарга на мяне выпала. Вядома, якая пры пасвінні нуда чалавеку. Знайшоў я кавалачак дрэва і давай яго крэмзаць ножыкам. Крэмзаў, крэмзаў увесь дзень, а вечарам, прыгнаўшы статак, паказваю гэтую фігурку жонцы ды і пытаю: „Што гэта?“ Яна пакруціла ў руках і кажа: „Няйнакш на свінню падобнае...“ „То ж гэта меў быць зубр! Тут і ножкі, і рожкі, і горб і нават барада...“. „Ну і што з таго, — не паддаецца жонка. — Але ўсё ж больш на старую замораную свінню выглядае, чым на зубра“. Хоць і крыўдна было пачуць такое, але гэта не адбіла мне ахвоты да разьбы. Стаў я толькі вельмі пільна прыглядацца да розных звяроў, будовы іх цела. Часценька хадзіў у наш Белавежскі прыродазнаўчы музей, цэлымі днямі прападаў у пушчы, каб дзе напаткаць ды добра прыгледзецца дзікаму зверу, яго рухам, паводзінам. А потым стараўся перадаць у дрэве тое, што заўважыў. Ну і ўсё ж дабіўся свайго! Недзе ў 1960 годзе майго зубра дэлегацыя з Белавежы завезла на Шлёнск і ўрачыста падарыла шахцёрам-перадавікам. Гэта мяне ўпэўніла, што мая праца падабаецца людзям. Тады я ўжо парадкам узяўся за яе. Вырэзваў постаці розных пушчанскіх звяроў: аленяў, лосяў, дзікаў і птушак: зязюлек, цецерукоў; нават розныя абразкі — зверы і птушкі сярод пушчанскіх дрэваў. Не абмінаў здобіць рознымі ляснымі матывамі рамы да люстраў, вешалкі, іншае абсталяванне і ўпрыгожанне кватэраў.

Расказвае ўсё гэта Сяргей Доўбыш, седзячы на пяньку. Паволі вяжа слова за словам, як быццам бы ў такт разцу, што звітна ходзіць у яго спракты-

(Працяг на стар. 3)

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### ПАСЕКІ

Цяпер у Беларусі налічваецца каля 350 тысяч пчаліных сем'яў. Іх развядзеннем займаюцца калгасы і саўгасы, эксперыментальныя базы, вучэбна-вытворчыя гаспадаркі, лясгасы, грамадскія арганізацыі. Для разводу пчол створаны гадавальнікі ў Брэсце, Гродна і Баранавічах, якія ўжо сёлета будуць налічваць 2800 сем'яў.

### УСЯ ФЛОРА РЭСПУБЛІКІ

Парк, што закладваецца ў Мінску на былым Камароўскім балоце, будзе дзевятым па ліку ў сталіцы рэспублікі. Ён зойме плошчу ў 100 гектараў. Тут будуць прадстаўлены ўсе віды дрэў і кустоў, што растуць у розных кутках рэспублікі. Насаджэнні кампануюцца так, каб паўтарыць характэрныя для Беларусі віды і пейзажы. Шматлікія паляны, злучаныя пешаходнымі дарожкамі, будуць чаргавацца з цяністымі сасновымі і яловымі гаямі, светлымі бярэзнікамі і асіннікамі, дубровамі.

### БУЙНЕЙШЫ Ў ВОБЛАСЦІ

У Гомелі будзе разгорнута будаўніцтва буйнейшага ў вобласці малочнага завода. Яго праектная магутнасць — 200 тон разнастайнай малочнай прадукцыі за змену. Завод будзе аснашчаны самым сучасным абсталяваннем.

### У ГЭТЫМ ТЫДНІ

**235 гадоў назад**

1.8.1744 нар. Ж. Б. Ламарк, французскі прыродазнавец і мысліцель, які ўпершыню распрацаваў цэласную тэорыю эвалюцыйнага развіцця жывога свету.

**65 гадоў назад**

1.8.1914 Германія абвясціла вайну Расіі, 3.8 — Францыі. 2.8. герм. войскі акупіравалі Люксембург, 4.8. уварваліся ў нейтральную Бельгію. Пад выглядам абароны апошняй Вялікабрытанія 4.8. абвясціла вайну Германіі. У жн. на баку Антанты выступіла Японія, у кастр. у падтрымку Германіі — Турцыя. Ваен. дзеянні пашыраліся. У вайне ўдзельнічалі 33 краіны ўсіх кантынентаў. У гэтай вайне было забіта і памерла ад ран каля 10 млн. чал., ранена больш за 20 млн., памерла ад эпідэмій каля 10 млн. чал.

**35 гадоў назад**

1.8.1944 пачалося Варшаўскае паўстанне. Працягвалася 63 дні.

**30 гадоў назад**

4.8.1949 быў здадзены ў эксплуатацыю першы грузавік „Стар 20", сканструяваны і выпрадукаваны ў краіне.

* * *

*31.7.1909 пецябургская „Ніва" пісала: Наша прадказанне аб дрэнным для шаха выніку апошняга руху бахтыяраў і нацыяналістаў на Тэгеран спраўдзілася хутчэй, чым можна было чакаць. У той час як Сапехдар вёў доўгія перагаворы з англійскім і рускім консуламі, якія выехалі яму насустрач з мэтай спыніць наступленне, атрады фідаяў працягвалі рухацца да Тэгерана і нечакана для дыпламатаў уступілі ноччу ў сталіцу.*



**З летапісу дружбы.** Кастрычнік, 1976. Леніна. Ускладанне вянкоў на магіле савецкіх і польскіх воінаў. Прысутнічае намеснік міністра нацыянальнай абароны ПНР Ю. Урбановіч.

## КРАСУЙ НАША ДРУЖБА!

# ПАШЫРАЦЬ ІДЭЮ ДРУЖБЫ

35 гадоў таму назад была вызвалена ўся Беларусь, а таксама значная частка паўночна-ўсходняй Польшчы, у тым ліку і горад Беласток, і ўся тэрыторыя цяперашняга Беластоцкага ваяводства.

З гэтай нагоды ваяводскія праўленні Таварыства польска-савецкай дружбы і Саюза барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю наладзілі для свайго актыву метадычна-інфармацыйны семінар, у якім прынялі таксама ўдзел партыйныя работнікі з гмінных цэнтраў прапаганды, прадстаўнікі маладзёжных арганізацый і настаўнікі.

Семінар адкрыў старшыня Ваяводскага праўлення ТППР **Ян Соха,** які заявіў, што думка аб скліканні гэтага семінара нарадзілася ў выніку ажыццяўлення пастаноў, прынятых у час X агульнапольскага з'езду ТППР і VI Кангрэса ЗБоВіД. Асноўнай мэтай гэтага семінара, гаварыў Ян Соха, з'яўляецца пашырэнне нашых ведаў аб польска-савецкім братэрстве па зброі, аб ролі савецкай арміі ў баях за вызваленне нашай зямлі, аб усебаковай дапамозе краіны Саветаў нашай айчыне ў першыя гады адбудовы яе гаспадаркі. Гэта справы наогул вядомыя, адзначаў Ян Соха, але незалежна ад гэтага іх трэба пастаянна ўзнімаць і даводзіць да ведама шырокіх кругоў нашай грамадскасці, асабліва неабходна знаёміць з імі нашую моладзь.

І мяне таксама арганізатары папрасілі на гэты семінар. Хацелі яны паслухаць аб баях за вызваленне Беластока і Беласточчыны, бо Беластоцкая аперацыя была адной з больш сур'ёзных састаўных частак вызваленчай аперацыі „Баграціён". Я з вялікай прыемнасцю расказваў удзельнікам семінара аб ходзе крывавых баёў, якія летам 1944 года разыгрываліся на нашай шматпакутнай зямлі, аб геройстве і самаахвярнасці савецкіх салдат, аб героях Савецкага Саюза, якія тут, на Беласточчыне, загінулі, каб мы маглі жыць у свабодзе. Рыгор Кунавін, Аляксей Фларэнка, Павел Пятроў, Віктар Жолудзеў, Вера Белік, Таццяна Макарава — гэта толькі некаторыя з іх.

За вызваленне паўночна-ўсходніх раёнаў Польшчы загінула ў баях 36 тысяч савецкіх салдат. Гераічныя іх подзвігі ўвекавечваюць шматлікія помнікі, мемарыяльныя комплексы і салдацкія могільнікі, якімі пастаянна апякуюцца нашы грамадзяне. Гаварыў аб гэтым падпалкоўнік Зыгмунт Паўлік — член прэзідыума Ваяводскага грамадзянскага камітэта па ахове помнікаў барацьбы і пакутніцтва, а Мар'я Альшэўская-Трахімяк — сакратар Ваяводскага праўлення ТППР — сваё выступленне прысвяціла асноўным задачам у дзейнасці Таварыства польска-савецкай дружбы на Беласточчыне і яго супрацоўніцтву з Саюзам барацьбітоў за свабоду і дэмакратыю.

Член Галоўнага праўлення і старшыня Ваяводскага праўлення ЗБоВіД, **Мікалай Кірылюк** асабліва моцна адзначыў неабходнасць супрацоўніцтва ветэранаў з маладым пакаленнем грамадзян Народнай Польшчы. **Абавязкам тых,** што ваявалі, што змагаліся за народную ўладу, гаварыў Мікалай Кірылюк, з'яўляецца праца з моладдзю, каб прывіваць дзяўчатам і хлопцам любоў да Айчыны, каб закараняць ідэі дружбы і братэрства з народамі свету, ды асабліва з народамі Савецкага Саюза. І тут якраз сутыкаюцца і ўліваюцца ў адно супольнае русла мэты і заданні арганізацыі ветэранаў і Таварыства польска-савецкай дружбы. Гэта таксама ўдзячнае поле для грамадскай дзейнасці ўсіх людзей добрай волі.

**К. Вуйтовіч,**
старшыня камісіі па супрацоўніцтву з моладдзю, член галоўнай рады ЗБоВіД.

## ХРОНІКА

28.6.79 адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. На ім былі абмеркаваны і зацверджаны дырэктывы справаздачна-выбарнай кампаніі ў гуртках і падрыхтоўкі IX з'езду БГКТ, а таксама план працы Прэзідыума на другое паўгоддзе. У верасні намечана правесці пленарнае пасяджэнне ГП БГКТ, на якім будуць акрэслены заданні членаў ГП і актывістаў у справаздачна-выбарнай кампаніі. З гэтай жа мэтай у кастрычніку адбудзецца нарада старшынь гурткоў БГКТ.

Справаздачна-выбарная кампанія ў гуртках БГКТ пачнецца 1.10.79 і закончыцца 31.3.80. У красавіку 1980 года пленум ГП БГКТ зацвердзіць з'ездавыя матэрыялы і вызначыць дату з'езду. Уступна прапануецца правесці яго ў маі 1980 г. Мае быць на ім 115 дэлегатаў (1 дэлегат ад 55 членаў БГКТ).

У часе справаздачна-выбарнай кампаніі асаблівая ўвага будзе звернута на разбудову і ўмацаванне гурткоў БГКТ.

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"**

**Заблудаўская спальня ● „Бегі" Язэпа Драздовіча ● Літаратурная старонка ● У Махнатым ● Рэнесанс тэатральнай дзейнасці ● Голас мараліста ● Весткі з Навасадаў, Саколкі, Бельска, Бабікаў, Гайнаўкі, Галадоў, Грыгораўцаў ● Калі сніцца кажух ● Капуста, менш вядомая ● Няпісанае правіла дзетсаду № 5 ● Песня „Żeby się ludzie kochali"**

## ШТО НОВАГА?

### НОВАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЗЯРЖАВА

Пасля 87 гадоў англійскага каланіяльнага панавання і двух з палавінай гадоў самакіравання астравы Гілберта набылі 12 ліпеня незалежнасць. У адміністрацыйным цэнтры маладой дзяржавы, якая з гэтага часу на ўсіх геаграфічных картах будзе называцца Кірыбаці, горадзе Тараве ў ноч з 11 на 12 ліпеня быў спушчаны брытанскі флаг і ўлада перададзена нацыянальнаму кіраўніцтву на чале з Іерэмія Табаі.

Дзяржава Кірыбаці размешчана на 16 каралавых астравах у заходняй частцы Ціхага акіяна. Іх агульная плошча складае 861 квадратны кіламетр, а насельніцтва — каля 55 тысяч чалавек.

Насельніцтва гэтых размешчаных у раёне экватара астравоў з гарачым і вільготным кліматам займаецца галоўным чынам вырошчваннем какосавых пальмаў, трапічных фруктаў, а таксама рыбалоўствам і вытворчасцю копры. Адной з асноў эканомікі з'яўляецца таксама здабыча фасфатаў, якая знаходзіцца ў руках брытанскай фасфатнай кампаніі.

Перад кіраўніцтвам астраўной дзяржавы, якая адкрывае новую старонку сваёй гісторыі, стаяць складаныя сацыянальна-эканамічныя праблемы, пакінутыя ў спадчыну англійскімі каланізатарамі. На парадку дня — задачы развіцця мясцовай прамысловасці, павышэння жыццёвага ўзроўню насельніцтва, барацьбы з непісьменнасцю.

### А Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

Кансерватыўны ўрад аб'явіў сапраўдную вайну прафсаюзам, абнародаваўшы праграму заканадаўчых мер, якую ён ужо да восені мае намер працягнуць праз парламент. Прадугледжваюцца, у прыватнасці, абмежаванне права на арганізацыю забастовачных пікетаў, правядзенне серыі ўнутраных прафсаюзных рэформ, якія, паводле разлікаў кансерватыўнай адміністрацыі, звялі б да мінімуму магчымасць шырокіх стачачных выступленняў. У той жа час прыватным прадпрыемцам будзе дадзена фактычна нічым не абмежаваная магчымасць звяртацца да масавых звальненняў, без усякай рызыкі паўстаць затым перад арбітражным судом.

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek** 27 VII — 8.50 Film fab. 9.55 Koncert. 15.00 Spartakiada. 20.35 Spartakiada. 21.15 Spartakiada. 21.50 Rosyjskie pieśni ludowe.

**Sobota** 28 VII — 7.40, 15.00, 18.00, 20.25 Spartakiada. 9.05 Koncert. 12.10 Film fab. 16.00 W świecie zwierząt.

**Niedziela** 29 VII — 7.40, 15.00, 20.35 Spartakiada. 10.50 Film anim. 12.30 Spektakl. 16.15 Koncert. 17.00 Panorama międzynar. 17.55 Klub film. 18.55 Teatr miniatur.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота. 12.05—12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Niewinne — USA 31 VII—1 VIII. New York, New York — USA 2—3 VIII. Sam na sam — pol. 4—5 VIII.

**Bielsk Podl.** Panowie dbajcie o żony — fr. 30—31.VII. Ojciec Chrzestny — USA 2—3 VIII

**Czeremcha** Był sobie drozd — radz. 31 VII—1 VIII. Gdziekolwiek jesteś Panie Prezydencie — pol. 4—5.VIII.

**Czyże** Partita na instrument drewniany — pol. Zagubione dusze — wł. 1—5.VIII.

**Gródek** Ponad strachem — fr. 4—5 VIII.

**Hajnówka** Czy Lucyna to dziewczyna — pol. 30 VII. Joseph Andrews — ang. 31 VII—1 VIII Mistrz kierownicy ucieka — fr. 2—3 VIII. Ostatni bal w Rożnowie — czes. 5.

**Michałowo** Krótkie wakacje — wł. 31 VII—1 VIII. Koziorożec — I — USA 2—3 VIII Akwarele — pol. 4—5 VIII.

**Mielnik** Abba — szwedz. 4—5 VIII.

**Milejczyce** Szantaż — ang. Dziwna kobieta — radz. 1—5 VIII.

**Narew** Jak się budzi królewny — czes. Nie wychylać się — jug. 1—5 VIII.

**Narewka** Adela jeszcze nie jadła kolacji — czes. Chłopiec z burzy — austral. 1—5 VIII.

**Orla** 56 godzin na wagarach — czes. Ring — węg. 1—5 VIII.

**Nurzec** Magiczny kamień — NRD 1—3 VIII. Inna — pol. 4—5 VIII.

**Rajsk** Siedem piegów — NRD. Komisarz w spódnicy — fr. 1—5 VIII.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**
**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**
**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch", Przedsiębiorstwo Wydawniczo-Kolportażowe w Białymstoku.
Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 52 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch", Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto PKO nr 1531-71.
Indeks 36911/36671
B.Z.Graf. Zam. 1306. Nakład 6400 egz. S-2

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ**

# ДЗІЦЯЧЫ ФАЛЬКЛОР

Дзіцячы фальклор дзеліцца на тры відавыя групы — песні, забаўлянкі і гульні.

**Песні.** Няма, бадай, патрэбы акрэсліваць каноны гэтага жанра паэтычнай творчасці таму, што песня з'яўляецца неадлучнай і самай блізкай жыццю чалавека. Дзіцячы песенны фальклор дзеліцца на песні для дзяцей і песні дзіцячыя. Першыя з іх ствараліся дарослымі, другія — самімі дзецьмі на пэўным этапе іх узросту. Песні для дзяцей, якія часта называюцца калыханкамі, ствараліся маткамі ды бабулямі — асобамі, найчасцей прабываючымі з дзіцём. Называнне песень для дзяцей калыханкамі не азначае, што мэтай іх было толькі і выключна закалыханне дзіцяці. Апрача сапраўдных песень-калыханак былі і такія, якія паступова знаёмілі дзіця з акружаючым светам, развівалі яго інтэлектуальна.

Найбольшая аднак група — гэта песні-калыханкі. Спяваліся яны над калыскай дзіцяці, каб тое хутчэй заснула. Часта ў іх звяртаюцца да хатніх птушак і звяроў, якія сваім паяўленнем мелі прыносіць сон. Найчасцей у песнях выступаюць кот, курка, гуска. Надзелены яны як рысамі добрымі, так і псотніцкімі. Песні гэтыя былі манатоннымі, спакойнымі. Вось, прыкладна:

*А-а-а,*
*Коткі два,*
*шары-буры обыдва,*
*Ніц нэ будут робіті,*
*Туолькі Колю бавіті.*

або:

*Люлі, люлі, люлі,*
*Прылетіэлі куры,*
*Сталі сокотаті,*
*Нэ давалі Васі спаті.*

А вось прыклад песні-калыханкі зусім іншага тыпу, песні с філасофіяй дарослага чалавека, не пасуючай да дзіцячага свету:

*Гойда, гойда, гойда-да,*
*Ліэпшэ піво ніж вода,*
*Бо за піво платіті,*
*А водічку так піті.*

Песні, мэтай якіх было не закалыханне, а развіццё дзіцячага розуму, былі крыху іншага характару — больш эмацыянальныя, прысвечаныя дзецям сярэдняга ўзросту. Найчасцей былі гэты песні гумарыстычныя таму, што гумар быў найбольш даступным дзіцяці. Прыкладна:

*Скочыў котік чэрэз плотік,*
*Побіў нуожкі і жыботік.*
*Баба ёго шкодовала,*
*Мэдом пупік смаровала.*

ці:

*Прышоў діэд з Тэлушок,*
*Пошыў бабі кожушок.*
*Як пошыў, так пошыў,*
*Шчэй за піэчку положыў.*
*Сталі мышы драпотаті,*
*З'елі бабі кожушок.*
*Сталі діеті плакаті —*
*Чым кожушка лататі?*
*Рублём, рублём, діэточкі,*
*Коб нэ было дырочкі.*

Песні для дзяцей — гэта песні маралізатарскія, павучальныя. Стараліся імі прышчапіць дзіцяці ўсё тое, што добрае, і адлучыць яго ад адмоўных звычак.

Цікавая з'ява, у гэтага тыпу песнях даволі часта паяўляюцца вульгарныя элементы, а нават намёкі на палавыя адносіны. Прыкладамі: „Скочыў котік чэрэз плотік", „Пушоў діэд по грыбы", „Люлі, люлі, люлі-се". Неабходна пры гэтым адзначыць, што большасць песень гэтага тыпу мае па два варыянты: раз — як песні маралізатарскія, другі — з уплеценымі вульгарызмамі. Тлумачэння гэтай з'явы трэба, бадай, шукаць у дасціпнасці дарослых, а магчыма і ў тым, што была гэта справа пераходу ад песень для дзяцей да вульгарнага вулічнага фальклору. Быў гэта найпрасцейшы спосаб замены. Хапіла толькі на месца паасобных слоў уставіць вульгарызмы. Немагчыма проста даць веры, каб маці спявала гэтакія песні. Было гэтак не толькі з песнямі. Таксама паяўляліся вулічныя малітвы і таблічкі множання. Тады памылкова было б лічыць, што гэты тып творчасці з'яўляецца песнямі для дзяцей, тым больш, што выступаюць яны ў двух варыянтах. Хутчэй гэты другі варыянт выконваўся самімі дзяцьмі, але абсалютна не быў пладом іх творчасці.

**(Працяг на стар. 5)**

**(Працяг са стар. 1)**

# І КВЕТАЧКА, І ЛІСЦІК, І ТРАВІНКА...

каваных пальцах і са звычайнага кавалка ліпавага дрэва ўсё выразней вырысоўваецца стройная постаць аленя. І я даведваюся, што хоць у яго сям'і ніхто не займаўся разьбой, але майстраватых было многа: і дзед, і бацька, і дзядзька — хто быў кавалём, а хто цяслярствам займаўся. З працы рук ды з промыслу жылі, бо зямлі тае было, што бабе сесці. У яго таксама ўсяго гектар гаспадаркі ды вось гэты домік на Заставе ў Белавежы. Ні то хлеўчык, ні то летнюю кухню прыспасобіў ён сабе на майстэрню і ўсё толькі ў ёй цэлымі днямі корпаецца. А за пяцьдзесят з няшмнагім год жыцця давялося яму працаваць у белавежскім ГСе, гміне, але найдаўжэй, бо 10 год, дрывасекам у пушчы. І, бадай, тады найглыбей запала ў яго сэрца ўлюбёнасць у красу Белавежы. Не толькі ў яе веліч, магутнасць, але ў кожную найменшую нават кветачку, лісцік, травінку.

— Гадоў пяць таму назад пачаў я рабіць талеркі. Рэзбіў на іх розныя арнаменты, больш са свае галавы браў, але часам падглядаў і тыя ўзоры, што на тутэйшых хатах здобяць вокны і вуглы. Потым у сярэдзіне талерак выпальваў постаці лясных звяроў і птушак. Цяпер жа здоблю іх засушанымі пушчанскімі кветкамі і раслінкамі. Заліваю празрыстым лакам, і так яны могуць красавацца дзесяткі год. Што ж, люблю шукаць новае, цікавейшае. Многа чаго можна зрабіць, — кажа ён у задуме. — Але жыццё жыццём — на хлеб зарабіць трэба. Даводзіцца паўтараць лепшыя і самыя ўдалыя ўзоры.

І разец у яго руках, здаецца мне, захадзіў яшчэ шпарчэй. А на ўсланы падарожнікам ды бабкаю падворачак з поўнымі кошычкамі пушчанскай красы — кветкамі ды зёлкамі — прыйшлі якраз жонка разбяра з нявесткаю. Яны тут жа парадкуюць ды спасобяць для сушэння свае зборы. Сын завіхаецца пры нарыхтоўцы драўніны на разьбу. Словам, усе тут стараюцца пасобіць майстру. А яго вырабы не залежваюцца, на іх усюды вялікі попыт: і ў Доме рамяства ў Беластоку, і на кірмашах народнага мастацтва ў розных гарадах Польшчы, і тут, у Белавежы, ад ахвочых набыць іх турыстаў і экскурсантаў проста адбою няма. Папулярнасць заслужаная. Высокую ацэнку яго прац даюць і тыя дыпломы, якія ён атрымаў з некалькіх выставак у Гайнаўцы, Беластоку, Кракаве, Варшаве.

Што ж, кожнага прыцягвае, палоніць арыгінальнае хараство Белавежы, вычараванае разцом Сяргея Доўбыша.

**Мікалай Гайдук**
Фота аўтара





**НА КУЛЬТУРНАЙ НІВЕ**

# У АРЭШКАВЕ

Ужо больш дзесяці гадоў клуб прэсы і кніжкі ў Арэшкаве вядзе Галіна Савіцкая, выпускніца гайнаўскага беллліцэя. Мае яна дасягненні ў вядзенні культурна-асветнай работы сярод малодшых дзяцей. У клуб „Рух" прыходзяць яны маляваць, паслухаць чытанне цікавых кніжачак, на цікавыя дзіцячыя тэлеперадачы. Тут арганізуюцца ўрачыстасці з нагоды святкавання Дня дзіцяці або навагодняй ёлкі.

Амаль саракаасабовы гурток вясковых гаспадынь (КГВ) арганізуе ў клубе кулінарныя і кравецкія курсы, мае сваю пазычальню настольнай заставы. Жанчыны стварылі аматарскі мастацкі гурток „Арэшкі", які цяпер налічвае 21 асобу. Кіраўніком яго з'яўляецца Ніна Аверчук. З фаховымі парадамі прыязджае да іх інструктар ГП БГКТ Янка Крупа. Гурток спявае народныя песні, рыхтуе і выступае на сваёй і ў суседнік вёсках сцэнах з інсцэніроўкамі сватаў, заручын і сцэнак з вяселля на вёсцы. Усе іх выступленні карыстаюцца вялікім поспехам. Яны штогод удзельнічаюць у конкурсах беларускай песні і аглядзе драмгурткоў. Пра месцы, занятыя імі на гэтых аглядах мы не раз ужо пісалі. Арэшкаўскіх самадзейнікаў асабліва ведаюць са спектакляў у Чыжах, Клейніках, Гайнаўцы. Тутэйшыя кабеты даволі часта арганізуюць забавы і за зробленыя грошы купляюць розны кухонны посуд для пазычальні. Шматлікае механізаванае абсталяванне атрымалі яны як узнагароды за ўдзел у конкурсах.

У клубе „Рух" штодзень збіраецца моладзь. Актыўна працуе савет клуба ў складзе: Уладзімір Літвінюк, Ірэна Грушэўская, Ірэна Патэюк, Мікалай Яцко і Марыя Рошчанка. Моладзь мае тут тэлевізар, магнітафон, настольны тэніс, спартыўнае абсталяванне. Яна дэкаруе глядзельны зал, сочыць за парадкам у клубе і на панадворку. У Арэшкава на забаву (ёсць тут свой аркестр) ахвотна прыязджае моладзь з суседніх вёсак: Лазіцаў, Выгана, Парыева і Альшыны.

Сюды прыязджаюць з канцэртамі музыканты з беластоцкай філармоніі, хор з Гарадка, беластоцкія пісьменнікі на аўтарскія сустрэчы і г.д. Настаўніца мясцовай школы, Ядвіга Данілецкая, вядзе курс ТВП. Тут адбываюцца таксама сельскагаспадарчыя курсы, на якія збіраецца каля 40 чалавек.

**Я. Целушэцкі**
Фота аўтара



„Арэшкі" спяваюць свае народныя песні.

# Чаму няма аранжады?

Ужо некалькі гадоў я праводжу свой летні водпуск у вёсцы Старына ў гміне Дубічы Царкоўныя. Даводзіцца заходзіць у мясцовую краму, каб у спакотную пару купіць пару бутэлек аранжады. Заходжу ды дарма. Яна тут рэдка калі бывае. Гмінная спулдзельня „Самапомач хлопска" ў Кляшчэлях, па ўсяму відаць, не клапоціцца пра іх прадукцыю і забеспячэнне імі сваіх крамаў нават у час сенакосу або жніва. 30 чэрвеня бягучага года было тут каля ста дзяцей у лагеры, у мясцовай школе. Яны таксама хацелі купіць сабе адну--дзве бутэлькі аранжады.

Наведаў я 27 чэрвеня клуб „Рух" у Арэшкаве. Спамянуты ГС сюды прывозіць таксама замала бутэлек газіраваных напіткаў. У той дзень у клубе была толькі сталовая вада.

**(яц)**

## ГМІННЫЯ НАВІНЫ

### ШТО БУДУЕЦЦА?

У Юхнавецкай гміне многа будуецца. У кастрычніку 1976 года пачалася пабудова зборнай гміннай школы на 240 месц. Будаўнікі з Беластоцкага будаўнічага камбіната намераны аддаць яе ў карыстанне ў ліпені 1980 года. Аддзел Ваяводскага цэнтра спорту і рэкрэацыі ў Бельску пачаў пабудову спартыўнага цэнтра каля Войшак над ракою Нарвай. Заканчэнне яго пабудовы прадбачваецца ў 1981 годзе. Сельскагаспадарчая прадукцыйная спулдзельня ў Сальнічках пачала пабудову фермы нутрыяў на 600 месц і фабрыкі па перапрацоўцы фруктаў і гародніны. Ферма будзе гатова ў лістападзе бягучага года і фабрыка ў сакавіку 1980 года. Гміннае ўпраўленне намерана адкрыць сёлета ў лістападзе стражацкую рамізу ў Трычоўцы. Пабудова яе распачалася яшчэ ў 1973 годзе. Гміннае ўпраўленне прызначыла 972 тыс. злотых на пабудову водаправода і каналізацыі ў пасёлку аднасямейных дамоў у Клеасіне (гэтыя інвестыцыі будуць гатовы ў 1980 годзе), тры мільёны злотых на пабудову трохкіламетровай асфальтаванай дарогі з Юхноўца ў Шараносы (будзе яна гатова сёлета), дзевяці пачакальняў на аўтобусных прыпынках: двух у Юхноўцы Касцельным, Грыневічах, Лявіцкіх, Вульцы, Белях, Злотніках, Трычоўцы і Войшках. Усе яны будуць гатовы ў лістападзе гэтага года. Коштам 500 тыс. злотых. У бягучым годзе будзе закончана меліярацыя зямельных угоддзяў вёскі Клевінова.

### У ДУБІЦКАЙ ГМІНЕ

Гміна Дубічы Царкоўныя налічвае трыццаць вёсак і 3520 жыхароў (на сто мужчын прыпадае дзевяноста восем жанчын). Ёсць тут 8222 гектары сельскагаспадарчых угоддзяў, з таго 7044 га маюць індывідуальныя гаспадары. Сенажаці і пасбішчы займаюць 32,5% усяго абшару гміны. На канец 1978 года было тут 753 гектары ПФЗ. У мінулым годзе сяляне купілі 51 га ПФЗ. У тым жа самым годзе індывідуальныя гаспадары мелі сярэдні ўраджай чатырох збожжавых культур у 22,2 ц з 1 га сельскагаспадарчых угоддзяў (гэты пакзчык раўняецца сярэдняму ў Беластоцкім ваяводстве) і 200 ц/га бульбы (г. зн. вышэй сярэдняга ўраджаю ў ваяводстве). Земляробы падсеялі 168 кілаграмаў НПК у чыстым складзе на 1 га сельскагаспадарчых угоддзяў (сярэдняя ў ваяводстве — 120 кг НПК на 1 га). Выканалі яны ў 100% план падсеву вапны (падсеяна 900 тон). Апрача таго, аднавілі 277 тон бульбы, купілі для далейшай гадоўлі 250 цялят, зрабілі 2500 тон кішонак і спаравалі 120 тон бульбы.

Цяпер у гміне ёсць 4177 штук рагатай жывёлы, у тым ліку 1858 малочных кароў, 7138 свіней і 3381 авечка. Летась сяляне прадалі дзяржаве 620 тон збожжа, 366 тон свіней (план продажу быў выкананы ў 112,6 працэнта), 349 тон ялавічыны і 3100 тысяч літраў малака (столькі, колькі запланавана).

Дзейнічае тут 48 спецыялістычных гаспадарак, у тым ліку 38, якія спецыялізуюцца ў жывёлагадоўлі, ды 9, якія спецыялізуюцца ў вырошчванні бульбы і адно — у вырошчванні рапсу і ільну.

Адна спецыялістычная гаспадарка прадае на пунктах скупкі мяса, збожжа і бульбы ў сярэднім на 240 тысяч злотых у год, калі адна індывідуальная гаспадарка прадае гэтых прадуктаў на 85 тысяч злотых у год.

Сярод спецыялістычных гаспадарак у Дубіцкай гміне найлепшымі лічацца гаспадаркі: Рыгора Назарука, Уладзіміра Сурэля і Мікалая Федарука — усе яны з Ягаднікаў, спецыялізуюцца ў авечкагадоўлі, але маюць і добрыя вынікі ў свінагадоўлі, Мікалая Галашэвіча з калоніі Ягаднікі, які спецыялізуецца ў гадоўлі малочнага быдла, Аляксандра Германовіча (ён гадуе многа авечак і свіней) і Яна Герасімюка (ён гадуе многа свіней) — абодва са Старота Корніна і Рыгора Троца з Карыціск, які спецыялізуецца ў свінагадоўлі.

У мінулым годзе сяляне ўзялі 6,8 млн. злотых сельскагаспадарчых крэдытаў, у тым ліку 1,2 млн. злотых інвестыцыйных крэдытаў. Пабудавалі яны дзевяць інвентарскіх будынкаў на 935 месц і мадэрнізавалі чатыры на 63 месцы.

**Я. Целушэцкі**






*62 БУР. Пунктамі абазначаны доты, якія абараняліся да 9 сутак у раёне вёсак Слохі-Машчоная.*

**(Працяг са стар. 1)**

# ХТО ЯНЫ?

батальёна. Ротай камандаваў лейтэнант **Меранкоў**, а палітруком быў **Волкаў**. Рота размяшчалася ля вёскі Машчона Каралеўская...

Тут я асабліва завастрыў увагу, бо якраз „дот 18 безмянных герояў“ і па сённяшні дзень тырчыць на ўзгорку за гэтай вёскай, за **Машчонай Каралеўскай.**

Андрэй Крук успамінае: „22 чэрвеня наша рота базіравала ў зямлянках. Вайна нас захапіла ў доце **„Затвор'е“**. Так называўся дот, у якім мы занялі абарону. Баямі камандаваў тут капітан Паставалаў. Да 27 чэрвеня ён не здаваў дота. Устанавіў сувязь з іншымі дотамі, у тым ліку з дотамі **„Вольный“** і **„Крутой“**.

Вось і новая загадка: якія з існуючых дотаў насілі гэтыя клічкі? Як называўся „дот 18“? Ці яго абаронцы таксама былі падпарадкаваны капітану Паставалаву?

Васіль Ласковіч паясняе:

— Напярэдадні 22 чэрвеня з **Магілёўскага пяхотнага вучылішча** ў раён Сямяціч было накіравана 12 маладых афіцэраў-лейтэнантаў. Іх не паспелі раздзяліць па ўзводах і таму яны трымаліся разам. Калі ўспыхнула вайна, яны ўсе занялі абарону ў гэтым жа доце. Да іх далучылася яшчэ 6 салдат...

Ёсць і іншыя меркаванні на гэтую тэму. Пра іх я пісаў ужо раней. Але таварыш Ласковіч заяўляе:

— Гэтыя даныя мы збіралі літаральна па крышынцы: там слова, там звестка...

— А ў архіў арміі не звярталіся?

— У архіве захоўваюцца даныя аб мільёнах байцоў і каб атрымаць якую-колеч звестку, трэба ведаць дакладна прозвішча, імя, год нараджэння. Інакш Цэнтральны архіў пытанняў не прымае.

— Дык што? Няма надзеі?

— Надзея, зразумела, ёсць, — гаворыць Васіль Пятровіч, — і я яе яшчэ не патраціў, а што ўдасца нам устанавіць, дык мы неакладна вам паведамім.

Ну што ж, пачакаем, бо я таксама ўсё яшчэ маю надзею раскрыць тайну дота 18 герояў. А калі пры гэтай нагодзе змагу даведацца і расказаць чытачам пра іншых байцоў, якія змагаліся над Бугам, тым лепш. Нездарма ж гітлераўскі генерал Блюментрыт напісаў у сваіх успамінах, што „пачатковая бітва ў чэрвені 1941 года ўпершыню паказала нам Чырвоную Армію. Нашы затраты даходзілі да 50 працэнтаў“, а пад Брэстам „мы даведаліся, піша гэты генерал, што абазначае змагацца на рускі лад“.

**Віктар Рудчык**
Фота аўтара

## МАЙСТАР НА ЎСЕ РУКІ

### УЛАДЗІМІР СЦЕПАНЮК

Уладзімір Сцепанюк жыве ў Пасынках, што ў Бельскай гміне. Дом яго ад вуліцы ашалёваны і памаляваны. Тая частка дома, што ад панадворка — мураваная, служыць яна кладоўкаю. Сам ён маляваў, маляваў і дабудоўваў. Абсталяваў і дзве стадолы.

Уладзімір Сцепанюк залічваецца таксама да перадавых гаспадароў вёскі. Сельскагаспадарчыя работы ў яго выконваюцца пры дапамозе сучасных машын. Асабліва вялікую работу робіць трактар. Усе машыны ўвесь час спраўныя. Сам ён умее іх рамантаваць.

Праўда, сучасная тэхніка прынесла яго сям'і нямала бяды. Праз неасцярожнасць, падчас працы ў полі сеўнікам яго жонка страціла адзін палец, а яшчэ два так пакалечыла, што сталі яны бязладныя.

Аграмадныя перамены ў жыцці вёскі прынесла электрыфікацыя. Яна ўзняла на высокі ўзровень сельскагаспадарча-бытавую культуру. Бо гэта не толькі святло ва ўсіх будынках, карыстанне з тэлевізараў, лядовак і сціральных машын, як гэта ў Сцепанюкоў. Гэта таксама „сіла“, якая выкарыстоўваецца шматлікімі машынамі: крайзэгамі, сячкарнямі і г.д. Сцепанюкі абсталявалі „сілу“ ў 1958 годзе. Выкарыстоўваецца яна найбольш у майстэрні для вулканізацыйных прац. Уладзімір Сцепанюк купіў вулканізацыйнае абсталяванне ў 1960 годзе. Ад гэтага часу выконвае ен рамонты шын (апонаў), камер (дэнтак), а нават рамонт калошаў і гумовых ботаў.

Цягу да тэхнікі адчуваў Уладзімір Сцепанюк з ранняй маладосці. У 17 год пачаў ён працаваць у кузні. Каваў коней, акоўваў вазы, сані, рамантаваў плугі, бароны. Добрым быў кавалём. А цяпер вядомы ён як вулканізатар. Аб яго вулканізатарскім рамястве інфармуе шыльда, якая вісіць на яго хаце. Варта падкрэсліць яшчэ яго працавітасць. Працуе ён са сваёй жонкай на 10 га зямлі ды паспявае выконваць рамесныя заказы людзям і шмат чаго сабе.

І каб меў ён тэхнічную адукацыю, далёка зайшоў бы. А ён самавук. У школу хадзіў толькі 4 зімы. Стаць добрым спецыялістам змог ён толькі дзякуючы сваёй тэхнічнай смякалцы, самароднай здольнасці.

Тэкст і фота **М. Хмялеўскага**



**(Працяг са стар. 1)**

# ВАКУЛОВІЧЫ

на Машчонцы мельнікаў, сярод іх і з Вакуловічаў. Млын у гэтай вёсачцы датрываў аж да пасляваеннага часу. Быў ён уласнасцю ўсяго сяла. Вясковая грамада яшчэ перад апошняй вайной „здавала“ яго ў арэнду на год ці болей розным „арандатарам-мельнікам“. Такі арандатар быў абавязаны малоць пэўную колькасць збожжа дарма для сяла (пераважна 10 цэнтнераў на валоку-ўчастак; у Вакуловічах было 5 участкаў), за ўсё іншае мліва ўвесь даход належаў арандатару. За гэта ён павінен быў рамантаваць усё абсталяванне млына і будынкі пры ім, а „сэло мусіло даті дэрво, порэзаті ёго і збудоваті моуст на грэблі“ — як памятаецца тутэйшаму жыхару сямідзесяцігадоваму Аляксандру Ярашэвічу. Потым кола згніло, застаўкі знесла паводка, а будынак сяло прадало „на знос“ гаспадару з суседняй Грабаркі.

Калі з млына сяло не мела вялікай карысці, то мала што болей яе было і з пясчаных палеткаў: Дубова Гора, Заборэ, Куток, Лутовіна, Новіны, Старое Поле, Чвартіны, крыху лепш было з



*У Вакуловічах яшчэ і цяпер, ідучы за вадою, можна „спасцігнуць“ усе бліжэйшыя і далейшыя навіны.*

сенажаццю і пашай: Багно і Каянкі, але на навакольных гарах: Зверынэць і Тростэнэць нават і „заец здох бы з голоду, коб ёго там загородіті“. Таму ўсе мужчыны былі „людэ лесовые“ — працавалі пры вырубе і вывазе драўніны з лесу, нават ездзілі на работу ў Белавежу. Калі не было працы ў лесе, тады „бэлькарэ“ спецыяльнымі тапарамі выцёсвалі бэлькі на будынкі, рабілі „біндры“ — нешта падобнае на цяперашні паркет, стругалі клепкі на бочкі, хадзілі па наваколлю трачаваць, некаторыя займаліся сплавам дрэва па Бугу.

Жыццё было падпарадкавана земляробчай каляндарнай абраднасці. Тут яшчэ і цяпер на каляду некаторыя гаспадыні вараць „грушэўнік“ (навар з сушаных груш) і заліваюць ім вараны боб, рыхтуюць куццю з макам. Пасля вячэры рэшткі пакідаюць нанач на стале, бо „уночэ прыдут діды есті“. Раней каляднікі хадзілі са звяздою, „гэродамі“, „шопкаю“ або „вэртэпом“. Яшчэ год дваццаць таму назад тут гучна спраўлялі „Юр'я“. Спецыяльна пяклі круглы „коровай“, аздоблены „гускамі“, бралі косць з таго кумпяка, што свянцілі на Вялікдзень, не забывалі пра гарэлку і закуску. Зайшоўшы на поле, „насампэрэд покачают коровая“, потым „заб'ют куостку ў зэмлю“, затым „посыплют скорлупкі од яек, коб осоту нэ было“, ну і сядаюць разам з бліжэйшымі суседзямі да абруса, застаўленага пі-

В. Чапліна

# Наша жабка

Настала лета. Яблыкі на дрэвах былі яшчэ зусім маленькія і зялёныя. А вось трускалкі ўжо даспявалі. То там, то тут відаць былі на градках паружавеўшыя ягады, і Марына кожны дзень хадзіла іх глядзець. Вельмі ж ёй хацелася хутчэй паласавацца смачнымі трускалкамі.

Першымі даспелі тыя ягады, што раслі на самым прыпёку. Яны апетытна чырванелі сярод зялёнага лісця і здаваліся асабліва смачнымі.

Марына хацела іх сарваць, але я нагаварыла пачакаць да заўтра: няхай лепей даспеюць.

Раніцай Марына ўстала раней звычайнага, узяла кошычак і пайшла ў сад. Падышла да градак і раптам са здзіўленнем спынілася: усе спелыя ягады былі кімсьці аб'едзены. Ад крыўды Марына расплакалася.

— Няма чаго глупствам пераймацца, — пацяшала я ўнучку. — Заўтра іншыя даспеюць, вось і збярэш!

На другі дзень Марына ўстала яшчэ раней, але ягады зноў былі аб'едзены. Так і завялося. Пакуль трускалкі ружовыя, іх ніхто не чапае, а як паспеюць — усе ў дзірачках, быццам нехта падзябаў, але хто, мы ніяк не маглі здагадацца. Спачатку думалі, што гэта вераб'і. Каб іх адстрашыць, паставілі на градкі пугала, але трускалі ўсё роўна былі аб'едзены.

Пачалі пільнаваць і сапраўдных зладзеяў выявілі. Аказаліся імі зусім не вераб'і, а слізнякі.

Лета было дажджлівае, мокрае, і слізнякоў развялося вельмі многа. Прабавалі мы іх збіраць, але з'яўляліся яны на градках ноччу, і поцемку іх ніяк не разгледзіш.

Так бы, мабыць, і засталіся мы без ягад, каб не знайшоўся памочнік. А памочнікам гэтым аказалася самая звычайная шэрая жабка.

З'явілася яна ў нашым садзе нязванай, негаданай. Пайшлі мы з Марынай па ваду, адчынілі брамку, глядзім — жаба.

Яна сядзела ля самага парога брамкі і так блізка, што Марына ледзь на яе не наступіла. А жаба не адсунулася, вылупіла вочы і дарогі не саступае. Марына спалохалася, схавалася за мяне і кажа:

— Фу, якая працівная! Не пускай яе ў сад, бабуля!

— Чаму не пускаць? — спытала я. — Жаба не вінавата, што з выгляду непрыгожая. Затое яна карысная. Няхай заходзіць, бо ж яна не толькі вусенямі, але і слізнякамі корміцца.

З гэтымі словамі я шырэй адчыніла брамку і адышла ўбок.

Жаба быццам толькі гэтага і чакала. Яна не спяшаючыся пералезла цераз нізкі парог і няўклюдна закульгала ў бок нашага дома. Там пад ганкам яна і пасялілася.

Марына першы час баялася жабу. А раптам, як дакранешся да яе, у самой барадаўкі вырастуць! Але калі я даведалася аб Марынінай боязі, дык толькі засмяялася: гэта ж выдумкі, ад жаб ніякіх барадавак не бывае.

І ў доказ гэтага я злавіла жабу і доўга трымала яе ў руках. Барадаўкі ў мяне не выраслі, але Марына ўсё роўна баялася да яе дакранацца.





Як я і спадзявалася, жаба аказалася цудоўнай памочніцай. Цяпер нам ужо не трэба было мучыцца і збіраць слізнякоў. Жаба і без нашай дапамогі выдатна з імі спраўлялася. Яна палявала за слізнякамі так старанна, што ўжо праз некалькі дзён Марына пачала збіраць смачныя, налітыя ягады.

На сваю працу жаба выходзіла заўсёды вечарам. Ледзь пачынала змяркацца, яна вылазіла з-пад ганка. Нейкі час блукала каля дома, а потым кіравалася па здабычу ў сад ці агарод. Да такога распарадку нашай памочніцы мы ўжо прызвычаіліся і вечарам заўсёды глядзелі пад ногі. Бо жаба нас зусім не баялася. Яна ведала, што яе тут ніхто не пакрыўдзіць. Таму, калі рабілася цёмна, мы былі асабліва ўважлівыя, каб выпадкова не наступіць на яе.

І ўсё ж бяда здарылася. Аднойчы да нас прыехалі знаёмыя. Мы забыліся ім сказаць, нехта вечарам выйшаў у сад і ўпоцемках наступіў нашай жабе на лапу.

З вялікай цяжкасцю далезла яна да ганка, тут яе раніцай і ўбачыла Марына.

Забыўшыся, што баялася кранучь яе слізкую шурпатую шкурку, Марына схапіла жабу на рукі, прыціснула да сябе і, называючы „прыгожай, мілай, добрай жабкай", пабегла да мяне.

Мы адразу ж агледзелі хворую лапку. Драпін на ёй не было, але сама лапка была неяк выкручана, і давялося яе завязаць. Увесь гэты час жаба спакойна сядзела на руках у Марыны, быццам разумеючы, што мы хочам ёй памагчы. Потым мы адградзілі на верандзе куточак і пусцілі туды жабу: няхай пажыве тут, бо з хворай лапкай не магла ж яна сабе здабываць ежу.

Кульгаўка, як мы пачалі называць жабку, аднеслася да свайго палону спакойна. Яна нават не прабавала пералазіць праз дошкі, якімі мы яе адгарадзілі. Затое цяпер мы маглі самі пераканацца, як многа яна ела.



Мы толькі тое і рабілі, што цэлымі днямі збіралі для нашай хворай то вусеняў, то слізнякоў! Дасталася нам за гэты час! Добра яшчэ, што хворая хутка паправілася.

Калі мы жабку выпусцілі, яна, замест таго, каб ісці ў агарод па здабычу, у першы ж вечар заявілася да нас у хату. Відаць, за час хваробы яна паспела прызвычаіцца атрымліваць ежу з рукі, і ёй

(Працяг на стар. 7)





# Вясёлы куточак

Настаўнік: — Што такое бархан?

Вучань: — Гэта нешта накшталт асла.

* * *

Настаўнік: — Хто такі Зеўс?

Вучань: — Гэта бог, які заўсёды зяваў.

* * *

Са школьных сшыткаў вучняў шостага класа:

„Тыгр бег па саване, і яго капыты гулка стукалі аб зямлю".

„У сабакі былі блакітныя вочы і ружовыя шчокі".

„Ніна не пайшла ў школу, і яе грызлі мухі сумлення".

„З лесу выйшлі дзве кабылы, сабака, хлопчык і іншыя людзі".

„Барыс пабег шукаць Яшку і на паварoце нечакана ўваткнуўся ў яго".

* * *

Пасля доўгага маршу ў гарачы летні дзень салдаты затрымаліся на прывал.

— Шкада, што нашага тоўстага кухара няма з намі, — кажа салдат Новак.

— Чаму? Ты што, галодны ў такую гарачыню? — дзівіцца сябар.

— Не, не галодны, але мог бы схавацца ў яго цені і паляжаць.

* * *

— Наш Міхасёк нядаўна пачаў маляваць, а ўжо прадаў пяць карцін. У яго талент па маім тату.

— Так? Яго дзед таксама быў мастаком?

— Не, прадаўцом.

# Пазнаёмімся

Крыстына Кавальская, вучаніца шостага класа, в. Крывец 52, пошта 17-212 Ласінка, Беластоцкае ваяводства.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 86/2, кв. 60. Жана Барысаўская, 12 гадоў.

* * *

БССР, 220082, г. Мінск — 82, вул. Сердзіча, 22/18, кв. 80. Наташа Самошкіна, 12 гадоў.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск — 36, вул. К. Лібкнехта, 55, кв. 16. Люда Шашкова, 14 гадоў.

* * *

СССР, 373250, г. Баку — 58, пос. Хурдалан, 27 квартал, дом 1, кв. 63. Ничканиной Вике.

# Адгаданка



Прадметы з левага боку маюць пары па правым баку. Спалучы пары лініямі.

Адрас рэдакцыі: „Зорка", 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.



# Зорка



Хлопчык з Вілюкоў. Фота М. Гайдука.

№ 30 (1146) ГАЗЕТА БЕЛАРУСКІХ ДЗЯЦЕЙ У ПОЛЬШЧЫ 29.VII.1979 г.

# ДАПАМОГА

За сталом сядзяць пяць чалавек. Ідзе пасяджэнне членаў праўлення касы ўзаемадапамогі.

**Старшыня.** Таварышы! Дазвольце чарговы сход членаў праўлення касы ўзаемадапамогі лічыць пачатым. Да нас паступіла заява ад нашага супрацоўніка Феліксяка. Вось яна (чытае): „Прашу выдзеліць мне пазыку ў памеры восемсот злотых, якую абавязваюся вярнуць праз чатыры месяцы. Гэта сума неабходна мне з нагоды атрымання прэміі".

**Другі.** З розуму сышоў чалавек! Атрымаў прэмію і яшчэ просіць пазыку!

**Трэці.** Я заўсёды гаварыў, што тыя, якія не п'юць і не кураць, ненармальныя людзі.

**Чацверты.** А можа, мы папросім яго растлумачыць, у чым усё-такі справа?

**Старшыня.** Сапраўды... Давайце паслухаем, што скажа Феліксяк.

Адзін з членаў праўлення выбягае і вяртаецца з цікім разгубленым Феліксякам.

**Пяты.** Сядай, Феліксяк, не саромейся.

Феліксяк садзіцца на край прапанаванага яму месца.

**Старшыня.** Вы выпадкова не памыліліся, Феліксяк, падаючы нам вось гэтую заяву?

Вам далі прэмію, а вы яшчэ мяркуеце атрымаць пазыку? У нас бярэмя заяў. Тут штосьці не так. Растлумачце больш падрабязна, якая існуе сувязь паміж атрыманнем прэміі і просьбай аб пазыцы?

**Феліксяк** (нясмела). Калі два гады назад я атрымаў прэмію пяцьсот злотых, увесь аддзел крычаў: „Феліксяк, з цябе барыш!" Пайшлі ў рэстаран, сам я не піў, таму што дырэктар не даў дазволу, а калегі пілі і елі. Я заплаціў за рахунак тысячу дзвесце злотых. Гэта было адразу ў пачатку месяца, і таму ў мяне была яшчэ палучка. Цяпер мне выдалі прэмію пяцьсот злотых. Зарплату я ўжо распусціў, а калегі зноў збіраюцца адзначыць гэтую падзею. Таму я і напісаў заяву.

**Старшыня** (пасля роздуму). Дык што будзем рабіць з заявай? Вырашайце, таварышы...

**Трэці** (пасля хвіліны маўчання). Прыдумаў. Давайце звернемся да дырэктара, каб ён адмяніў загад аб прэміі Феліксяку, тады яму не трэба будзе траціць грошы на сяброўскую вячэру.

**Феліксяк** (шчаслівa ўсміхаючыся). Дарагія мае... Дзякуй! Вы сапраўдныя таварышы!

На тварах прысутных з'яўляюцца задаволеныя ўсмешкі.

**Ян Капроўскі**



*Made in Zadrypanka.*



**— Быў так добра адукаваны, што гэта магло прэнна скончыцца.**

# НІЎКА



### НАБІЎКА

— Якое цудоўнае чучала ільва! Адкуль ты яго прывёз?

— З Афрыкі. Падстрэліў, як быў з дзядзькам на паляванні.

— А чым ён набіты?

— Дзядзькам.

### З БЛАКНОТА ДОКТАРА ЗНАХАРУКА

— Доктар! Мой муж стаў у апошні час шоргаць нагамі. Трэба рабіць нейкія заходы.

— Колькі яму год?

— Пры чым тут гады?

— А ўсё ж?

— Восемдзесят тры...

— Дык чаго ж вы хочаце?

— Я хачу, каб ён не шоргаў нагамі.

### ПРЫВІД

Задрыпанка да суседкі:

— Ці не можаце вы мне пазычыць качалку?

— На жаль, не, — я сама чакаю мужа.

### НЕЗДАГАДЛІВЫ

— Ты чуеш? У хаце нехта ёсць...

— Ну і што я павінен рабіць?

— Як што? Ідзі і разбудзі сабаку!

### ЧАГО Ў СПОРЦЕ НЕ БЫВАЕ!

У перапынку футбольнага матча ў кабіну тэлекаментатара прыйшоў трэнер Задрыпоніі.

— Паслухайце, — сказаў ён каментатару, — ці нельга весці рэпартаж памалей? Нашы хлопцы не могуць гуляць з такой хуткасцю.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

Прачытаўшы кнігу аб індзейцах, сын пытае ў бацькі:

— А чаму, заключаючы мір, індзейцы выкурвалі трубку міру?

— Таму, што пасля двух-трох зацяжак у іх ужо не заставалася сіл ваяваць.

*

Дробны служачы пайшоў з працы на паўгадзіны раней. Прыйшоўшы дамоў, ён яшчэ ў пярэдняй пачуў пах дарагой сігары, а заглянуўшы асцярожна ў шчылінку дзвярэй, убачыў жонку ў абдымках шэфа. Ён стрымгалоў паімчаўся назад на службу. Адыхаўшыся, ён сказаў таварышам па службе:

— Уф, ледзь не засыпаўся!

*

— Ты пойдзеш заўтра на пахаванне Янсана?

— З якой ласкі? Ён жа на маё не прыдзе!



### ГУМАР З БАРАДОЮ

### НЕ ХОЧА

Сядзяць за сталом муж з жонкаю, ядуць варэнікі. А мужава маці на пячы ляжыць.

— А чаго ж гэта маці з намі не абедае? — пытае муж у жонкі. — Ці, можа, ты яе не звала?

— Дзе там! Я ўжо яе прасіла-прасіла — не хоча, ды й усё. Ды глядзі сам, — кажа скупая жонка і голасна гукае: „Мама!", а потым падыходзіць да пячы ды ціхенька да свякрухі: „Вы замуж хочаце?"

— Што ты, дзіцё! — замахала старэнькая рукамі. — Не хачу, не хачу!..

Тады жонка да мужа:

— А што я казала?! Не хоча...

З „Весніка Задрыпоніі"

### АХ, ГЭТАЕ ВЯСЕЛЛЕ!..

На ўсё жыццё запамятаюць сваё вяселле Каця і Вася Сцепанюкі: менавіта тут яны ўпершыню пацалаваліся, упершыню прызналіся ў каханні.

### ПЫТАННЕ РЫЖАГА АЛЕШКІ

Калі не рабіць памылак, дык з чаго рабіць вывады?

ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

## Z TOBĄ NA ZAWSZE

z repertuaru Ireny Santor

słowa: Zbigniew Stawecki

muzyka: Marek Sewen

Nie skąpiło nam życie
nagłych spotkań ani rozstań.
Po co mówisz mi:
„zostań", wiesz najlepiej i tak...

Będę z tobą, zostanę z tobą...
na długi czas.
Może szczęście, co chodzi obok,
nie minie nas?
Łatwiej będzie tą samą drogą
przez życie iść.
Będę z tobą, zostanę z tobą
już dziś...
Będę z tobą, zostanę z tobą,
już dziś...

Gdybyś stanął w pół drogi,
świat zapłonie dookoła,
wtedy tylko zawołaj,
zaraz rękę ci dam...

Będę z tobą, zostanę z tobą...



## МІНІВЕРШЫ

### БАЯЗЛІЎЦУ

Начальства ганіць ён за вочы.
Калі ж з начальствам побач крочыць,
Як ліст асінавы дрыжыць.
Гатоў у гразь са сцежкі збочыць —
На цень начальства б не ўступіць.

### ПЛЕТКАРУ

Заўжды ў яго спакойны нораў:
На сходах маўчуном слыне.
Затое ў цёмным калідоры
Усіх зняславіць, абгаворыць,
Яшчэ і граззю абальле.

**Анань Варабей**



## КУРʼЁЗЫ

### СМЕТНІКАВЫ МУЗЕІ

На сметніку можна знайсці надта многае. Гэта можа пацвердзіць 27-гадовы Сені Паркер, жыхар Галівуда, які любіць наведваць звалкі рызза на падворках кіназорак. Так, на сметніку каля вілы Тоні Куртыса, ён падабраў падарунак, які Куртыс чамусьці адразу ж выкінуў. Гэта быў звычайны хатні халат, у кішэні якога ляжала і суправаджальнае да падарунка пісьмо.

На звалцы адслужыўшых хатніх рэчаў каля жытла моднай спявачкі Шэр яму пашанцавала знайсці амаль цэлы жаночы гардэроб: дзве сукенкі зусім ненадзяваныя, проста з магазіна, тое-сёе з жаночага адзення і некалькі нават такіх інтымных рэчаў туалету, як бюстгальтары. Апрача таго, і тут не абышлося без папер — прыгожы бланк запрашэння на ўручэнне Аскара і пісьмо нейката прыхільніка, які пражывае ў Сан-Францыска і пагражае скончыць жыццё самагубствам, калі Шэр не адкажа на яго пачуцці.

А вось побач з домам Дорыс Дэй Сені Паркеру ўдалося падабраць шмат пустых бутэлек з-пад віскі, уласнае фота самой Дорыс Дэй над труной любімага сабачкі і пагражальнае пісьмо невядомага чалавека, які, відаць, з нейкай нагоды шантажыруе яе.

Соні Паркер — не жабрак і не беспрацоўны. Ён чалавек адносна забяспечаны. Гэта яго такое хобі — пошукі на сметніку. Ён марыць аб адкрыцці... музея са сметнікаў галівудскіх кіназорак.

Дарма ты надзеў авечую шкуру: гэта доказ!